© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 41(97) ◈ 14 кастрычніка 1992 г. ◈ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)



## ПОСТУП ТЫДНЯ

***СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ ПРЫНЯЎ НАДЗВЫЧАЙНАГА І ПАЎНАМОЦНАГА ПАСЛА ЗША Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ ДЭВІДА СУОРЦА.*** *У час сустрэчы было абмеркавана развіццё беларуска-амерыканскіх сувязей.*

***У КРАІНЕ ПРАХОДЗЯЦЬ ДНІ ШВЕЦЫІ,*** *якія праводзяцца Гандлёва-прамысловай палатай Рэспублікі Беларусь і гандлёвым аддзелам пасольства Швецыі ў Маскве і стакгольмскім банкам «Нордбанкен». Жыхары і госці Менска могуць наведаць выставы шведскіх тавараў і экспазіцыю, прысвечаную А. Нобелю.*

***ПРАЙШЛА КАНФЕРЭНЦЫЯ ЛІГІ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА БЕЛАРУСІ,*** *на якой быў разгледжаны стан дэмакратыі і выкананне правоў чалавека ў рэспубліцы.*

***БЕЛАРУСКАЯ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ГРАМАДА І ФЕДЭРАЦЫЯ ПРАФСАЮЗАЎ БЕЛАРУСІ ПАДПІСАЛІ ПАГАДНЕННЕ АБ УЗАЕМАДЗЕЯННІ.*** *Асобая ўвага нададзена абароне правоў наёмных рабочых.*

***«ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!» — ТАК НАЗЫВАЕЦЦА ВЫСТАВА,*** *прысвечаная 110-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, што адкрылася ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі.*

***КАМЕДЫЯЙ «ПАЎЛІНКА» АДКРЫЎСЯ 73 СЕЗОН У БЕЛАРУСКІМ ДЗЯРЖАЎНЫМ АКАДЭМІЧНЫМ ТЭАТРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ.***

### ДА ВЕДАМА ПАДПІСЧЫКАЎ, ЯКІЯ ЖЫВУЦЬ ЗА МЕЖАМІ БЕЛАРУСІ!

Шаноўнае спадарства! Калі вы хочаце атрымоўваць «Наша слова» і ў наступным, 1993 годзе, просім тэрмінова пісьмова звяртацца па гэтым пытанні ў сакратарыят ТБМ імя Ф. Скарыны: 220005 г. Менск, вул. Румянцава, 13.

## ДЫМ БАЛЬШАВІЗМУ НА ПЛОШЧЫ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Паэт сказаў некалі, што нават «дым отечества» бывае салодкім і прыемным. Я ўспомніў гэтыя ўжо класічныя радкі, здавалася б, у не зусім спрыяльных для таго ўмовах — чытаючы лістоўку, якую нехта надоечы запіхнуў у маю паштовую скрыню. Звычайна я ахвотней адгукаюся на ўлёткі на роднай мове, а гэта была на рускай: «Все на митинг!.. Соотечественники!..» Клікалі на плошчу Незалежнасці. Я пайшоў туды — хацелася зірнуць у твары «соотечественников». Што яны будуць казаць з трыбуны, я ўжо зразумеў, чытаючы лістоўку: «Сколько можно терпеть беспредельное повышение цен, начавшуюся безработицу, посягательство на элементарные социальные и политические права человека и гражданина, поднимающуюся волну национализма?

Пора сказать БНФ и большинству депутатов Верховного Совета «Хватит!».

Вось табе і маеш: дапусцім, БНФ неяк вінаваты ў «хвалі нацыяналізму», якой «соотечественники» імкнуцца запалохаць насельніцтва, але як «фронтаўцы» маглі паўздзейнічаць на павышэнне цэн, калі распараджэнні аб тым зыходзілі ад Савета Міністраў, дзе ніводнага бэнэфаўца і блізка няма,— гэта загадка.

«Выйдзем на площадь и заставим Верховный Совет вспомнить, кому он обязан служить!» — заклікала лістоўка.

Так, каму ж гэта ён, ВС перастаў служыць? Чытаю назвы чатырнаццаці партый і рухаў, што гэта падпісалі: «Славянский Собор «Белая Русь»... «Организация «Союз» Верховного Совета Республики Беларусь»... «Суворовско-Нахимовский союз Республики Беларусь»... «Партия коммунистов Беларуси»... Невядома, як апынулася тут і «Организация солдатских матерей Республики Беларусь». Бедныя маці, чые сыны загінулі ад дзеда́ўшчыны, якая, нібы злая хвароба, ахапіла бальшавіцка-імперскую армію, а таксама ў час злачыннай афганскай авантуры! Не магу паверыць, што яны хочуць, каб тое працягвалася, каб множыліся ахвяры.

Ну, а вянчае шэраг «падпісантаў» прозвішча С. В. Гайдукевіча, які займае вельмі адказную пасаду ў Савеце Міністраў РБ, ва Упраўленні, што курыруе орга-

*(Заканчэнне на с. 2).*

## Каб жыла і квітнела вольная Бацькаўшчына

### *Р Э З А Л Ю Ц Ы Я*

***20-ай сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Нью-Брайнсвіку, штат Нью-Джэрсі, 5—7 верасня 1992 года***

Мы, удзельнікі дваццатай сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі сцвярджаем:

1. Дэмакратычны працэс на Беларусі ідзе штучна запаволенымі тэмпамі, не даючы развівацца рэформам і спрычыняючы эканамічны спад. Галоўная прычына гэтага замаруджвання ў тым, што структура і склад Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, які выбіраўся не як парламент суверэннай дзяржавы, а як мясцовы орган часткі былой савецкай імперыі, не адпавядаюць наспелым патрэбам моманту — інтэнсіўна распрацоўваць заканадаўства незалежнай дзяржавы і сачыць за яго выкананнем.

Наяўнасць сярод дэпутатаў Вярхоўнага Савета не дэмакратычна абраных заканадаўцаў і такіх, якія займаюць адначасна адміністрацыйна-выканаўчыя пасады, не толькі не дае аптымальных вынікаў, але пярэчыць самому прынцыпу дэмакратыі. Беларусі безадкладна патрэбны дэмакратычна абраны вышэйшы заканадаўчы орган, які працаваў бы толькі, як парламент, прафесійна.

2. Вярхоўны Савет і Урад Беларусі мусілі б больш актыўна праводзіць палітыку незалежнай дзяржавы ў адпаведнасці з Дэкларацыяй аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі і больш энергічна спрыяць дэмакратызацыі ейнага палітычна-грамадскага ладу; больш клапаціцца пра інтарэсы беларусаў замежжа, спрыяць вяртанню на Бацькаўшчыну тых, хто апынуўся вонках Беларусі на абшарах былога СССР, што ў першую чаргу датычыць беларусаў-вайскоўцаў, якія знаходзяцца на чужыне і жадаюць служыць Беларусі.

Асаблівая ўвага павінна надавацца адраджэнню нацыянальнай свядомасці, у спалучэнні са справядліва аплочанай працай можа адрадзіцца пачуццё грамадзянскай годнасці, а разам з ім пачуццё адказнасці за якасць арганізацыйнай і эканамічнай дзейнасці, за якасць прадукцыі працы.

3. Беларуская эміграцыя і яе нашчадкі ў Злучаных Штатах і ў Канадзе горача падтрымваюць ідэю адраджэння суверэннай і дэмакратычнай беларускай дзяржавы, перабудову эканомікі Беларусі на прынцыпах вольнага рынку ды справу забеспячэння дэмакратычных свабод усім яе грамадзянам без розніцы на этнічнае паходжанне ці светапогляд. У сувязі з гэтым амерыканскія і канадскія грамадзяне беларускага паходжання выкарыстоўваюць свае кантакты і ўплывы, каб спрыяць адраджэнню вольнай Беларусі.

4. Апошнім часам, аднак, сілы старога ладу на Беларусі аднавілі кампанію ачарнення маральных аўтарытэтаў беларускага нацыянальнага руху, у першую чаргу, лідэраў беларускай вайсковасці. За гэтай прапагандавай кампаніяй хаваецца намаганне паслабіць фронт нацыянальна-дэмакратычных сілаў на Беларусі і падкасіць салідарнасць з імі беларускай эміграцыі.

5. Афіцыйныя колы Беларусі, у тым ліку Міністэрства замежных спраў, Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» і іншыя структуры выступілі з прапановай правесці ў 1993 годзе ў чэрвені—ліпені з'езд («Кангрэс») беларусаў. Беларуска-амерыканскае Задзіночанне і Згуртаванне беларусаў Канады падтрымліваюць у прынцыпе гэтую наспелую ідэю, але свой удзел у яе ажыццяўленні абумоўліваюць далейшым ходам працэсу дэмакратызацыі на Беларусі і нацыяльна-дзяржаўнага будаўніцтва.

6. Беларуская эміграцыя будзе і надалей сачыць за ходам падзей на Беларусі:

а) ці не будзе пэўнымі сіламі замаруджвацца працэс нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння;

б) ці будзе выканана воля вялікай колькасці выбаршчыкаў, выказаная ў адпаведнасці з законам аб рэферэндуме;

в) ці будзе дадзены парламенцкай апазіцыі і дэмакратычным партыям і рухам час на перыядычныя выступленні па рэспубліканскаму радыё і на тэлебачанні (як гэта робіцца ў дэмакратычным заходнім свеце);

г) ці будуць спынены перашкоды нармальнай дзейнасці канструктыўнай апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце;

д) ці будуць спынены бяздоказныя абвінавачванні беларускіх нацыянальных лідэраў.

7. Урад Беларусі мусіць змяніць сваю палітыку ў дачыненні да забруджанай чарнобыльскай радыяцыяй тэрыторыі, узмацняючы праграму перасялення людзей, а не фінансавання іхняга там перабывання, бо такое фінансаванне вядзе да дэзарыентацыі жыхароў і да росту смяротнасці і захворванняў. Мы прапануем, каб Урад Беларусі рабіў большыя намаганні запрашаць замежныя фірмы для наладжвання вытворчасці медыкаментаў у рэспубліцы, якіх вельмі патрабуе беларускае жыхарства.

8. Удзельнікі дваццатай сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі выказваюць спадзяванне, што справа расследавання камуністычнага генацыду на Беларусі (Курапаты і ўсе іншыя злачынствы) не будзе спынена, ды што памяць ахвяр бальшавізму будзе ўшанавана пабудовай адпаведнага мемарыяльнага комплексу.

9. Адраджэнне рэлігіі на Беларусі павінна спрыяць адраджэнню беларускіх рэлігійных традыцый, беларускай мовы, культуры, духоўнасці, а не быць прыладаю паланізацыі, русіфікацыі ці іншай формы дэнацыяналізацыі беларусаў.

10. Для прыспешвання адраджэнскага і дэмакратычнага працэсу на Беларусі, для ўздыму эканомікі і матэрыяльнага дабрабыту патрэбныя як мага шырэйшыя культурныя і дзелавыя сувязі паміж грамадзянамі Беларусі і грамадзянамі заходніх краін. Беларуская эміграцыя гатова прыкласці ўсе сілы, каб гэтакія сувязі пашыраліся і замацоўваліся на агульнае дабро беларускага народа.

Жыве Беларусь!

Нью-Браўнсвік,
6 верасня 1992 г.

Беларуска-амерыканскае Задзіночанне,
Згуртаванне беларусаў Канады.

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



*Валерый ДРАНЧУК:* **«З тым патэнцыялам, які мы сёння маем, які напрацавалі «сярпом і молатам», цяжка вярнуцца ў Еўропу».**

# «Беларус на прызбе не сядзіць»

***Пра месца Беларусі ў геапалітычным кантэксце з членам Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады публіцыстам Анатолем Сідарэвічам гутарыць журналіст Валерый Дранчук.***



*Анатоль СІДАРЭВІЧ:* **«Сёння Еўропа не дазволіць абысціся з працавітым, памяркоўным дзесяцімільённым народам так, як гэта магла дазволіць камуністычная ўлада».**

**— Сёння, у кантэксце адраджэння і развіцця беларускай дзяржаўнасці, геаграфічнае становішча Беларусі ўсё больш прыкоўвае ўвагу палітыкаў, вылучаецца ў аб'ект геапалітычных разваг, дыскусій, прагнозаў і нават міжнародных праектаў. Аднак, гэта бачна, размова вядзецца не пра так званую «жыццёвую прастору» беларускай нацыі з пераглядам межаў, а, хутчэй, пра шанцы рэспублікі вярнуцца ў Еўропу, знаходзячыся, па сутнасці, ці не ў самым цэнтры гэтага кантынента. Парадаксальна, але так. Хто ведае, можа, тут сапраўды нашы дадатковыя рэзервы, стымул для самасцвярджэння як дзяржавы, як нацыі, урэшце, як самабытнай цывілізацыі. Як вы, Анатоль Міхайлавіч, расцэньваеце шанцы Беларусі на ганаровае месца ў Еўропе не толькі ў геаграфічным, але ў палітычным, культурна-грамадскім плане?**

— Падзяляючы тое, што вы сказалі, на будучыню гляджу вельмі асцярожна. Аптымізм мой даволі ўмераны. Бо мы ведаем і бачым, што наш усходні сусед не пазбыўся сваіх месіянскіх комплексаў, што ад яго можна чакаць усякіх непрыемнасцей. Ён мае ў Беларусі пятую калону не толькі ў асобе нашых дзяржаўных чыноўнікаў пераважна старога партыйна-наменклатурнага гарту, не толькі ў асобе афіцэрскага корпусу (восемдзесят працэнтаў яго складаюць выхадцы з Расіі), але і ў асобе пэўных колаў інтэлігенцыі. Успомнім заганную практыку, калі стваралі Інстытут культуры (ці любы іншы): замест таго, каб пасылаць у Расію або яшчэ куды рыхтаваць свае нацыянальныя кадры, мы прывозілі гэтыя кадры адтуль.

**— Да таго ж, каб не пакрыўдзіць, не надта шчыравалі ў пераборлівасці...**

— Што якраз і відаць. Цяпер многія з іх — «пакрыўджаныя». Як жа? Неслі нам вялікую культуру, а мы, няўдзячныя, хочам іх «прымусіць» выкладаць на нейкай там мове, якая быццам бы ніяк не пасуе да гэтай культуры.

**— Словам, з тым патэнцыялам, які мы сёння маем, які напрацавалі «сярпом і молатам», цяжка вярнуцца ў Еўропу?**

— Адно суцяшае, дае ўнікнуць скепсісу,— тое, што цяпер не 18-ы, не 19-ы і не 20-ы год, што цяпер Еўропа не імперыялістычная: разумее, што такое правы чалавека і правы народа. Еўропе трэба было перажыць дзве сусветныя вайны, каб у рэшце рэшт зразумець гэта. Думаю, што ў лоне Расіі югаслаўскі варыянт не саспее. Расія не Сербія, хоць таксама праваслаўная. Па-першае, яна мае сваю атамную бомбу, а гэта накладвае асаблівую адказнасць за паводзіны. Па-другое, у Расіі не адна Боснія і Герцагавіна. Ёсць у яе мусульманская Татарыя, мусульманская Башкірыя, мусульманскі Дагестан, мусульманская Чачня, наогул Паўночны Каўказ. Ёсць, нарэшце, будысцкія мангольскія народы. Увогуле, Расія — поліэтнічная і полікамфесійная, ёй трэба глядзець найперш унутр сваёй краіны. А хто не хоча страціць свае інтарэсы тут, у Беларусі, павінен ставіцца да нас як да роўных, разумеючы, што наша «самавызначэнне» — аб'ектыўны працэс.

**— Калі на тое, дык Расія — і сама Еўропа, прынамсі, усходняя яе частка.**

— Геаграфічна гэта нават паўЕўропы. Ад Смаленска да Урала (хоць, заўважым у дужках, Смаленск — наш беларускі горад, на жаль, страчаны на вякі). І калі, зноў жа, глядзець на карту, мы — Беларусь, Украіна, Балтыя — знаходзімся якраз у цэнтры Еўропы.

**— Наогул мяне здзіўляла дзяленне Еўропы на Заходнюю і Усходнюю, калі атрымлівалася, што Польшча, Чэха-Славакія, Венгрыя — усходнееўрапейскія краіны. Хутчэй за ўсё, тут і ёсць сярэдзіна Еўропы, так бы мовіць, больш заходняя сярэдзіна. А мы з Балтыяй і Украінай—больш усходняя. Не абсалютная, скажам так?**

— Бачыце, ёсць пэўная рызыка ў сцвярджэнні, што мы абсалютная сярэдзіна, хоць у геаграфічных адносінах яно так і ёсць. Бянтэжыць грамадска-палітычны стан, узровень цывілізаванасці. Вы слушна заўважылі, што гэта наш шанц у сэнсе самасцвярджэння як нацыі, як дзяржавы. Тут мы, вядома ж, не абсалютная сярэдзіна. Тыя ж Польшча, Чэха-Славакія, Венгрыя, Румынія, Балгарыя маюць працяглыя традыцыі самастойнага дзяржаўнага існавання. Там камуністы не памянялі, скажам, польскі бел-чырвоны сцяг на які-небудзь іншы. У былой ГДР камуністы таксама не адважыліся нямецкі трыкалёр мяняць на штосьці «больш вартае». Вазьміце Чэха-Славакію, Румынію, Венгрыю, Балгарыю — і там камуністы не адважыліся памяняць сцягі. У нас жа забралі і нашы гербы, і нашы сцягі. У тым ліку ў краінах Балтыі (заўважу між іншым, што краіны Балтыі ўсяго дваццаць гадоў пабылі незалежныя, і што жылі яны не ў самых дэмакратычных умовах: там панавалі аўтакратычныя рэжымы). Такім чынам, у нас з Украінай і Балтыяй сёння адны задачы, у палякаў, венграў, чэхаў, славакаў — інакшыя.

**— У сэнсе самасцвярджэння?**

— І ў сэнсе самасцвярджэння як еўрапейскіх дзяржаў, і ў сэнсе перадолення камуністычнай спадчыны. Што б ні казалі, Венгрыя не скарылася — 1956 год таму сведчанне. Польшча — успомнім падзеі 1956, 1968 гадоў, успомнім эпапею «Салідарнасці». Чэха-Славакія — з памяці не выкінеш ні падзеі 1968 года, ні «Хартыю-77». Словам, быў моцны апазіцыйны рух. Да таго ж захоўвалася прыватная ўласнасць. Хоць у якой форме, але захоўвалася, не ўсё было адзяржаўлена. А што ў нас? Нацыянальныя сімвалы былі зрынуты, выкінуты на сметнік. Ніякіх прыкмет прыватнай уласнасці, за выключэннем хіба што надпольнай. Нават намёку не было на якую-небудзь шматпартыйнасць. Апазіцыйны рух канцэнтраваўся пераважна на кухнях ды ў часе застолляў, дзе яшчэ? У піўбарах. А плошчы не гулі. Хоць, трэба сказаць, духоўная апазіцыя бальшавізму заўсёды была. Я вырас у Заходняй Беларусі і добра ведаю стаўленне сваіх землякоў, сваіх сваякоў да калгасаў, да бальшавікоў. Дзядзька, які мяне выхаваў, за тое, што меў сваю думку, пры Польшчы сядзеў у Картуз-Бярозе, пры Сталіне — на Калыме.

**— А зараз дзе?**

— А зараз сядзіць у сваёй роднай вёсцы і радуецца, што няма камуністаў, што ўлада іх скончылася. Вы назавіце мне хоць адну краіну, дзе было гэтулькі камуністаў, як у Беларусі,— семсот тысяч на дзесяць мільёнаў насельніцтва! Несумненна, Беларусь была самая камуністычная краіна Еўропы. Вось тут мы абсалютны «цэнтр». Але! Рэальна скажам, што Беларусь ці беларускія камуністы не далі са свайго асяроддзя Молатава, Кагановіча, тым больш Сталіна і Берыю. Катаў да нас прысылалі. То Бермана, то Цанаву. Нашы экс-камуністы, калі іх не будуць падбухторваць адпаведныя сілы з Расіі, на праліццё крыві не пойдуць. Я чамусьці ўпэўнены ў гэтым. Па-першае, пры такой насычанасці экс-камуністамі павінен спрацаваць хоць бы чыста бытавы чыннік: у кожнай сям'і ёсць сваякі-некамуністы, плюс суседзі, знаёмыя. Па-другое, нясхільнасць беларусаў да экстрэмізму, наша вытрымка. Па гэтых рысах нас ужо з павагаю пазнаюць у свеце. Здаецца, апошнія год-два далі нам для знаёмстваў столькі, колькі не далі цэлыя дзесяцігоддзі пад'ярэмнага існавання. У Еўропу, тут я згодзен з міністрам Краўчанкам, мы прыйдзем. Без галопу, чалавечай хадою. Ведаеце, што ў нас ёсць для Еўропы найперш і нягледзячы на ўсё? Наш народ не развучыўся працаваць. Беларус на прызбе не сядзіць. Толькі самы стары і самы нямоглы не мае парасяці ў хляве. А калі трохі дужэйшы, то ён мае цялушку. Нашы рабочыя ў цэхах не п'юць. Ва ўсякім разе, гэта, як кажуць, не так відавочна. Ніколі з Расіі не прысылалі заказчыкі сваіх рабочых, каб яны выраблялі заказаны ў нас тавар. Але я ведаю дзесяткі прыкладаў, калі нашы рабочыя ездзілі ў Расію вырабляць заказаныя ў іх тавары.

**— Бо няма на каго спадзявацца?**

— Вытворца кажа: прыязджайце і самі зрабіце тавар, які вы хочаце купіць у мяне... Гэта, вядома, крыўдна гучыць для рускіх, але ад праўды не ўцячэш. Паедзьце па вёсках Пскоўшчыны, Браншчыны, Смаленшчыны, Уладзімірскай, Яраслаўскай, іншых абласцей. І зірніце, што робіцца. Якія пустыя вёскі! Дык мала што пустыя. Калі яны трохі заселеныя, у іх няма ні птушак, ні жывёлы. Сядзяць людзі на прызбах. Думаю, мне даруюць гэтае параўнанне. Але што ёсць, ад суседа не ўтоіш.

Вось працавітасць нашага народа — яшчэ адна гарантыя, яшчэ адзін паказчык, што Беларусь набліжаная да Еўропы. Я сустракаўся з немцамі, з датчанамі, з амерыканцамі, прадстаўнікамі іншых народаў, і яны самі кажуць пра гэта, бачаць розніцу паміж намі і ўсходнімі суседзямі. Удзячная назіральнасць, дарэчы... Усім гэта кідаецца ў вочы. Адзначаюць таксама, што наш народ нясхільны да нікчэмнага праліцця крыві, што беларусы — гэта народ, які перш за ўсё шукае кампрамісу. Уладзімір Караткевіч добра сказаў: беларус спакойны, пакуль яго не бяруць кіпцем за рабрыну. Дык вось, не трэба чапаць беларуса кіпцем за рабрыну. Беларусы — людзі памяркоўныя. І вельмі добра разумеюць, у чым іх адрозненне ад суседзяў. Гэта можна пачуць у аўтобусе, у чарзе, на базары. Наш народ ведае сабе цану.

Шкада, аднак, што цэннікі існавалі нібы самі па сабе, да іх не надта прыглядаліся. Маю на ўвазе розную навалач, якая дзесяцігоддзямі не зважала на годнасць беларуса, спекулюючы на яго якасцях. Сёння Еўропа не дазволіць абысціся з працавітым, памяркоўным дзесяцімільённым народам так, як гэта магла дазволіць камуністычная ўлада. Прынамсі, мая ўпэўненасць грунтуецца на веры ў справядлівасць. Можа, крыху і наіўную...

А да працавітасці і памяркоўнасці трэба дадаць і такую рысу, як самавітасць народа. Сацыялагічныя апытанні паказваюць, што ў цяперашніх цяжкіх эканамічных варунках наш народ не спадзяецца ні на Шушкевіча, ні на Кебіча, ні на Ткачова, ні на Пазьняка. Ні на ўрад, ні на апазіцыю. «Як вы думаеце выйсці з гэтага цяжкага становішча?» — пытаюцца ў беларуса. Беларус кажа: «Буду працаваць. Буду больш працаваць». Толькі дзесьці дзевяць працэнтаў спадзяюцца, што ім дапамогуць Кебіч, Шушкевіч ці новы ўрад. Паказчыкі ў Расіі на гэты конт куды горшыя. Там каля сарака працэнтаў маюць надзею, што Ельцын іх і адзене, і абуе, і накорміць.

Вось гэтыя тры рысы — памяркоўнасць, працавітасць, самавітасць, гэта значыць спадзяванне на ўласныя сілы — пры спрыяльных вонкавых абставінах, пры ўмове, што ніхто нам не будзе навязваць сваю волю, могуць быць гарантыяй, што мы вернемся ў Еўропу даволі хутка. І яшчэ, бадай, пры ўмове, калі ўсе палітычныя групы грамадства, якога б колеру і адцення яны ні былі, згодзяцца з фактам існавання беларускай нацыі, беларускай мовы, беларускай дзяржавы і будуць лаяльныя да гэтай дзяржавы.

Я не баюся паўтарыцца: небяспека ў нас ёсць вонкавая, з Усходу. Скажам, пагроза можа навіснуць пры «пугачоўшчыне» ў Расіі. І пагроза ёсць унутры. Гэта «чырвоныя» і «карычневыя». Фашызму беларускага няма. Ёсць фашызм у інтэрнацыянальнай упакоўцы. Звяртаю ўвагу на блок, ці, больш дакладна, каардынацыйны камітэт грамадска-палітычных аб'яднанняў, узначалены падпалкоўнікам Сяргеем Гайдукевічам. Вось дзе наша ўнутраная пагроза. У гэтым блоку аб'ядналіся ўсе антыдэмакратычныя, антыбеларускія арганізацыі чырвонага і карычневага колеру.

**— Наша месца на карце адмерана гісторыяй і лёсам. Разам з тым, сённяшнія ўлады, скажам, прэм'ер-міністр Кебіч, ягоны ўрад прыкладаюць відавочныя намаганні, каб у Еўропы склалася пэўнае ўражанне не толькі пра наш народ, нашу дзяржаву, але каб Еўропа і свет былі лаяльныя да таго ж урада Кебіча, ягонай палітыкі. Тым часам мы, хочацца спадзявацца, на парозе рэферэндуму аб адстаўцы парламента і ўрада. Якая Ваша пазіцыя ў гэтай сітуацыі?**

— Я сацыял-дэмакрат і ўвогуле стаю ў апазіцыі да ўрада Кебіча. Больш таго, лічу яго палітыку неразумнай. Аднак не магу стаяць у абсалютнай, жорсткай апазіцыі да цяперашняга ўрада, таму што ў краіне ўдаецца захаваць сякі-такі эканамічны дабрабыт. Хоць мы і ходзім па краі прорвы, абвальных працэсаў удаецца пазбегнуць. Адстаўка ўрада, на мой погляд, здольная змяніць становішча не ў лепшы бок. Сацыял-дэмакрат не можа спрыяць дэстабілізацыі, не можа жадаць, каб народу жылося горш. Наша партыя ніколі не рабіла стаўку на пагаршэнне сацыяльна-эканамічнага становішча, якія б мэты пры гэтым ні дэклараваліся. Для нас непрымальны прынцып «чым горш, тым лепш». На сацыяльна-эканамічных крызісах паразітуюць фашысты і камуністы.

Разам з тым, працавіты, памяркоўны, самавіты народ заслугоўвае «павадыроў», якія б былі вартыя яго самога.

Раней ці пазней гэты Вярхоўны Савет і гэты ўрад павінны пайсці ў адстаўку. Трэба толькі ўсё разлічыць так, каб змена «варты» не пацягнула новых цяжкасцей і праблем для народа. Гэтага жадае не толькі любы сумленны палітык, гэтага, упэўнены, хоча і цывілізаваная Еўропа.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



*Горас МАККОЙ*

# БЫВАЙ, ЖЫЦЦЁ, БЫВАЙ, КАХАННЕ!

*(Працяг. Пачатак у №№ 32–40).*

— Гэта павінна вас зацікавіць. Няма ніякай рызыкі. Паслухайце, пан Мандан, калі гэтыя два тыпы абшчыпалі мяне, я ўжо быў гатовы скарыцца. Але калі я даведаўся, што адзін з іх — галоўны інспектар, усё перамянілася. Я зразумеў, што ён можа зрабіць мне вялікія паслугі, калі я заганю яго ў кут...

— І што, вы яго накрылі? — суха абарваў ён.

— Накрыў...

— Усё роўна як на кнопку націснулі, каб запаліць святло? Заяц зладзіў ваўка! Вы, канешне, ведаеце яго імя?

— Гэта Уэбэр,— адказаў я, супакойваючы сябе: «Не кіпяціся».— Гэта інспектар Уэбэр.

Мандан зарагатаў і хацеў ужо быў нешта сказаць, як раптам увайшоў негр з каваю. Трымаючы паднос на левай руцэ, ён разліў каву і паставіў перад кожным па кубку. Потым, пакінуўшы паднос на падлозе, побач з Манданам, выйшаў.

Мандан зрабіў два-тры глыткі, гледзячы то на мяне, то на кубак. Што да мяне, дык я паставіў кубак на паднос, не адпіўшы ні глытка.

— Хопіць, гэта ўжо занадта! Чарлі Уэбэр сустракаецца з гангстэрам, да таго ж, з гангстэрам у пралёце...

— Тым не менш, уявіце сабе, гэта так.

— Вы ўжо перабіраеце,— з усмешкаю сказаў ён.— Відаць, дрэнна адрэпеціравалі.

— Што?

— Я ад іх такога не чакаў. Звычайна яны спрытнейшыя, калі даюць урокі сваім сведкам...

— Якім сведкам? Хто — яны?

— Адвакаты, што прыслалі вас сюды.

— Якія адвакаты? Ніхто мяне не прысылаў...

— Слухайце, малады чалавек,— сказаў ён.— Я не буду выстаўляць вас за дзверы, загадаўшы даць вам выспятка, бо не вы адказваеце за гэты фарс. Але вы знойдзеце іх і скажаце ім, што я вельмі расчараваны. Я думаў пра іх лепш. Нашмат лепш...

— Клянуся чорт ведае чым: я абсалютна не разумею, пра што вы гаворыце!

— Прашу вас, малады чалавек. Не вымушайце мяне вяртацца да ранейшага рашэння выставіць вас за дзверы. Пасткі, якія расстаўляюць мне гэтыя панове, усё больш смешныя. Божа літасцівы, Чарлі Уэбэр! За каго яны мяне прымаюць? За патэнтаванага крэціна? Не маглі выбраць якогась простага ганчака, каб я мог паверыць, што ён здатны на шантаж? Божа, Чарлі Уэбэр! Самы значны паліцэйскі горада...

Ён зарагатаў і раптам апусціў руку ў кішэню і, перш чым я паспеў зразумець, што ён хоча зрабіць, свіснуў у свой нямы свісток.

— Я перадумаў,— сказаў ён змрочна.— Я выстаўлю вас за дзверы...

З'явіўся бамбіза-негр. Ускочыўшы, я выхапіў рэвальвер і нацэліў яго слузе ў самы пупок. Негр спыніўся.

— Схавайце рэвальвер,— сказаў Мандан.

— Скажыце яму, каб ён выйшаў. Богам заклінаю, скажыце, каб ён выйшаў! — закрычаў я.

Негр стаяў перада мною, сабраны, напружаны, пільна гледзячы ў вочы Мандану і чакаючы адно ягонага сігналу, каб кінуцца, схітраваўшы, на мяне. Я баяўся яго. Я выдатна ведаў, што змагу зваліць яго адной куляю, ведаў, што здараецца з людзьмі, калі іх раняць у пупок — аднак усё роўна баяўся яго.

— Скажыце яму выйсці,— паўтарыў я.

— Выйдзі, Альтэс,— сказаў Мандан.

Твар у негра і цяпер быў такі ж непранікальны. Ён зноў моўчкі выйшаў.

— Схавайце рэвальвер,— сказаў Мандан.

Я паклаў рэвальвер у кішэню, але сеў так, каб у любую секунду быць гатовым да з'яўлення з-за парцьеры гэтага чорнага д'ябла.

— Паслухайце мяне ўважліва, сучы сын,— сказаў я Мандану. — Усё, што я вам расказаў — поўная праўда. Я ўцёк заўчора з турмы і прыбыў у гэты горад толькі таму, што машына, у якой мы ўцяклі, была аднаго тутэйшага тыпа, і мы павінны былі вярнуць яе яму. Я скарыстаў тую самую тачку, каб паставіць магазін — мне трэба было рухацца далей, а бабак не было. Аднак не паспеў я сабрацца ў дарогу, як да мяне заявіліся разам з уладальнікам гэтай машыны два ганчакі — гэта ён іх прывёў. Яны мяне абулі. Тады я яшчэ не ведаў, што адзін з іх — галоўны інспектар. Калі я даведаўся аб гэтым, то вырашыў узяць яго на кручок. І мне гэта ўдалося. Але гэта нічога не дасць мне, калі вы не дапаможаце.— Я дастаў рэвальвер і навёў яго на жывот Мандана, трохі вышэй за кубак кавы, які ён трымаў у руцэ.— Свісціце вашаму негру. Скажыце яму, каб ён прынёс вам адзежу. Вы паедзеце са мною і праслухаеце гэты дыск.

— Можна дапіць каву? — запытаўся ён.

— Давайце.

Ён выпіў каву і паставіў кубак на сподачак.

— Пакладзіце рэвальвер у кішэню,— сказаў ён.

Я паклаў рэвальвер у заднюю кішэню штаноў. Мандан дастаў свісток, падзьмуў у яго — і адразу ж з-за парцьеры з'явіўся негр — усё роўна як джын з бутэлькі.

— Альтэс,— сказаў Мандан,— прынясі мне адзежу...

Джынкс наставіў дыск на фанограф. Прытуліўшыся да дзвярэй спальні, Мандан слухаў — нерухома, з бясстрасным тварам. Калі дыск скончыўся, ён аслабіў гальштук і паправіў манжэты кашулі.

Я хачу паслухаць яшчэ раз,— сказаў ён.

Джынкс уключыў фанограф. Мандан зноў прытуліўся да дзвярэй, але цяпер ён слухаў яшчэ больш уважліва. Раз-пораз ён кідаў позірк на Холідэй — яна ляжала на ложку. Але выглядала гэта так, усё роўна як ён і не бачыў яе. Цішыня была поўная — чуваць было толькі дыск. Нарэшце дыск зноў скончыўся, і Мандан прайшоў у глыб пакоя. Мы з Джынксам падышлі да яго.

— Цяпер вы ўпэўніліся? — спытаўся я.

— Упэўніўся. Але я ашаломлены. Вы не тутэйшы і не можаце зразумець, наколькі гэтая гісторыя неверагодная.

— Чаго вам яшчэ трэба? Адзінае, што мае значэнне — гэта, што я ўзяў яго на кручок. Гэты Уэбэр — усяго толькі гнілы ганчак, яшчэ адзін з іх, хто ўліп у гісторыю...

— Менш захаплення! Уэбэр не просты ганчак...

— Навошта спрачацца? Доказ — на дыску. Калі вы толькі хочаце перадаць нам сваё адзіўленне тым, што заезджы маладзён на скорую руку ўхапіўся чыста выпадкова за пятку вашага мясцовага Ахіла, то мы можам пагаварыць аб справе. Забудзьце, хто гэты тып, забудзьце, хто я, і адкажыце мне толькі на адно пытанне. Мы ўзялі яго на кручок?

— Узялі.

— Тады заклінаю вас, адкажыце: вы згодны папрацаваць з намі?

Ён апусціў свае гушчэзныя бровы і пацёр нос.

— Я хачу толькі папярэдзіць вас, каб вы не кідаліся ў гэтую схватку стрымгалоў. Уэбэр — магутны чалавек. Адзіная памылка — і мы апынемся пад грузавіком з цэглаю.

— Лухта. Адкажыце на маё пытанне: вы з намі ці не?

— Пройдзем на кухню, прысядзем і пазнаёмімся,— сказаў Мандан.— Я хацеў бы ўведаць пра вас трохі багата рэчаў, перш чым заўтра ўранку сюды прыйдзе інспектар...

X

Рыс прыйшоў першы і адразу ж утуліўся ў Холідэй, якая сядзела на канапе. Загаварыў ён толькі пасля таго, як я зачыніў дзверы.

— Шэф прыйдзе праз хвіліну. Ты знайшоў свайго сябра?

— Знайшоў.

Ён падсунуў да сябе крэсла і сеў, павярнуўшыся тварам да Холідэй.

— Шэф будзе хутка,— паўтарыў ён.

Я адчыніў дзверы спальні і даў Джынксу знак: выходзь.

— Джынкс Рэйнэр. Пан Рыс,— пазнаёміў я іх.

— Лейтэнант Рыс,— паправіў ён мяне.

— Прашу прабачэння... лейтэнант Рыс.

Джынкс падышоў да Рыса і паціснуў яму руку. Нягледзячы на ўсе надбадзёрванні, якія ён пачуў ад мяне незадоўга да з'яўлення паліцэйскага, ён нерваваўся. Усё ж такі гэта было яму ў навіну — мець таварыскую сустрэчу з прадстаўніком закона, які ведае пра здзейсненае ім злачынства.

Пастукалі ў дзверы. Мы пераглянуліся, Рыс устаў.

Я адчыніў дзверы. Гэта быў інспектар Уэбэр, тутэйшы князёк праваахоўны ўласнай персонаю. Нельга недаацэньваць яго, сказаў Мандан. Я разглядваў цяпер інспектара з новым, павышаным інтарэсам, імкнучыся ўлавіць у ім нешта такое, што растлумачыла б мне звышасцярогу, якую адчуваў перад ім Мандан, і нічога такога не знайшоў. Для мяне гэта быў звычайны паліцэйскі чарвяк.

«Добра, Чарлі,— падумаў я,— кідайся ўперад, любы мой, і адразай сабе кавалак пірага. Паглядзім, ці зможаш ты сарвацца з майго кручка...»

— Выбачайце, што спазніўся,— сказаў ён, уваходзячы.— Я падымаўся па лесвіцы для персаналу.

— Нічога, нічога,— адказаў я, зачыняючы дзверы.— Джынкс, вось інспектар Уэбэр...

Інспектар сеў перад Джынксам і ўгледзеўся ў яго, зусім не зважаючы на Холідэй і Рыса.

— Дык што там у цябе за справа? Гэта ты яе вынюхаў?

— Я, пан інспектар. Я...

— Наколькі ўсё гэта цягне?

— Э-э, на шмат...

— А дакладна?

— Вельмі на шмат,— адказаў Джынкс, кідаючы мне ўмольны позірк.

Цяпер ён нерваваўся яшчэ больш. Ён ужо спалохаўся Рыса і, натуральна, ледзь не самлеў перад інспектарам. Але я вырашыў: няхай яшчэ крыху пазмагаецца. Можа, хоць трохі абаб'ецца. Гэта яму вельмі патрэбна.

— Дык што ты сабраўся ставіць? — рэзка спытаўся інспектар. — Адрас.

— Э-э...— пачаў Джынкс.

Інспектар павярнуўся да мяне:

— Гэта твой сябра, пра якога ты мне казаў?

— Ён самы, пан інспектар.

— Растлумач яму,— адчайна сказаў мне Джынкс.— Растлумач...

— Што растлумачыць? Вы можаце мне сказаць, што ў вас за справа? — раз'юшана запытаўся інспектар.

Нябога Джынкс выдаваў цяпер сапраўднага пакутніка. Калі я пакіну яго перад вачыма інспектара яшчэ на хвіліну, ён зможа запароць усю задуму.

— Тут у нас адзін з вашых сяброў, пан інспектар,— сказаў я.— Няхай лепш ён растлумачыць вам, у чым рэч...

— Дзень добры, пан інспектар,— пачуўся голас Мандана.

Уэбэр і Рыс рэзка павярнуліся да яго. Мандан стаяў ля дзвярэй спальні і ўсміхаўся — бровы апушчаныя, лоб зморшчаны.

— Пакладзіце рэвальвер у кішэню, лэйтэнант,— сказаў ён спакойна.

Я ўбачыў, што ў Рыса сапраўды рэвальвер у руцэ.

— Якога чорта вы тут робіце, Мандан? — спытаўся інспектар.— Што тут адбываецца?

— Што? У мяне тут была кароткая гаворка з маімі кліентамі, пакуль вы яе не перапынілі.

— З вашымі кліентамі? Бог ты мой, што ў вас за гісторыя? — усхадзіўся інспектар.— Расказвайце! Я слухаю вас.

— Пазней,— усміхнуўся Мандан.— Трохі пазней. Спачатку я хацеў бы крыху асвяжыць вашую памяць, каб вы, калі зойдзе гаворка, казалі пра тое ж, што і мы...

Ён падышоў да стала, на які мы паставілі фанограф, і ўключыў апарат. Дыск закруціўся.

— Падыдзіце бліжэй. Няварта,— кіўнуў Мандан на фанограф,— каб ён гарлапаніў пра гэта на ўсю вуліцу.

«Трэба будзе паслаць яму букет кветак са словамі прабачэння,— падумаў я.— Гэта ас...»

— Няварта трывожыць суседзяў, каб яны выклікалі паліцыю...

Інспектар і Рыс пераглянуліся, збянтэжаныя. У Рыса твар быў зусім ашаломлены, у інспектара — цвёрды і рашучы. Цяпер ён ужо ведаў, што ў нас за справа. Недакладна, яшчэ толькі здагадваўся, але ўжо ведаў. Ён з нянавісцю паглядзеў на мяне, але цяпер мне гэта было маслам па сэрцы. Цяпер я ўжо нічога не баяўся.

— А зараз, увага,— сказаў Мандан.

Ён паставіў на дыск дыяфрагму. Неўзабаве пачуліся галасы. Інспектар паглядзеў на Мандана, які мірна ўсміхаўся, потым на Рыса, які ажно вочы вылупіў, і, нарэшце, спыніў свой позірк на мне. Я ўбачыў, як пацямнеў у яго твар, як задрыжэлі павекі — у ім абуджаўся звер.

Раптам ён выхапіў з кішэні рэвальвер.

— Рукі ўверх! — крыкнуў ён.

Мы ўзнялі рукі. Рыс зноў дастаў свой пугач і адступіў назад, пільнуючы нас вачыма. Інспектар кінуўся да фанографа і схапіў левай рукою за дыяфрагму, жадаючы сарваць яе, але сарваў толькі скуру з сваёй рукі, расшараваўшы далонь іголкаю, што лязом. Ён ажно ўзвыў ад болю, схапіў скрываўленай рукою дыск і, жадаючы разбіць, стукнуў яго аб фанограф, але, зразумеўшы, што гэта немагчыма, сагнуў яго ўдвая на жываце і засунуў пад рэмень.

— Неданоскі! — крыкнуў ён.— Абшукай іх, Рыс.

Рыс пачаў абшукваць Джынкса.

— Вы не праслухалі самы цікавы пасаж,— сказаў Мандан.— Там, дзе вы збіраецеся касануць бабкі.

— Неданоскі! — зноў выкрыкнуў інспектар, глянуўшы на акрываўленую руку.

Рыс адшукаў Джынкса і заняўся мною.

— Мы без зброі,— сказаў я.

— Без,— пацвердзіў Рыс.

— Станавіцеся ля сцяны,— загадаў інспектар.

Справа зайшла ўжо надта далёка. Я паглядзеў на Мандана.

*(Працяг будзе).*



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

